# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І КАНТОРЫ: Вільня, Вострабрамская 9. (Wilno, Ostrobramska 9). АДЧЫНЕНА што дня, апрача сьвят, ад 11 да 2 гадзіны.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтара і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 30 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. дахаты). Цана абвесткі перад тэкстам 150 мк., пасьля тэксту 200 м. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту у 1 шпальту

Год II. Вільня, Субота, 25 сакавіка 1922 г. № 9 (34)

# НЯХАЙ ЖЫВЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!

## Ад Адміністрацыі.

Нашы падпішчыкі вельмі часта жаляцца на тое, што яны не атрымліваюць нашай часопісі, што па загаду мясцовай улады яе на пошце канфіскуюць.

У гэтай справе мы зьвярнуліся да Дырэктара пошты і тэлеграфу з пытаньнем, ці падуладныя яму паштовыя чыноўнікі маюць права па загаду мясцовай адміністрацыі канфіскаваць якую-колечы карэспандэнцыю?.

На гэта нам адказана, што яны гэткага права ня маюць.

Дзеля гэтага ўсіх тых падпішчыкаў, якія атрымоўваюць „Белар. Звон“ беспасрэдна з свайго паштовага аддзелу ў межах т, з. „Сродковай Літвы“, а чамусьці будуць атрымліваць яго не акуратна, просім паведаміць нас аб гэтым, а мы з свайго боку пастараемся выясьніць справу і пацягнуць вінаватых да судовае адказнасьці.

Просім шаноуных падпішчыкау, тэрмін падпіскі якіх скончыуся, прысылаць грошы, бо у працiуным разе высылка газэты будзе затрымана.

*Адміністрацыя.*

## Трывожныя чуткі.

Напярэдадні канфэрэнцыі ў Генуі газэты ізноў пачынаюць пісаць аб нейкіх трывожных чутках, аб пагрозе новага бальшавіцкага наступленьня з прыходам вясны.

Пішуць аб гэтых чутках эндэцкія газэты, і „Rzeczpospolita“ навет вінаваціць у пашырэньні іх — ну, каго-б вы думалі? Ды тых-жа няшчасных беларускіх і літоўскіх культурных работнікаў, якіх бяз ніякага сьледства і суду ўжо два месяцы таму назад арыштавалі і саслалі ў Коўну!...

„Rzeczpospolita“ лепш-бы зрабіла, калі-б папрасіла вайскавых менш гаварыць аб гэтых страхах: бо грамадзянства як-раз ад вайсковых чуе найбольш трывожныя весткі! Дый у гэтым прыпадку, бадай, ня так ужо вінаваты лішне гарачыя і ахвочыя да вайны прадстаўнікі арміі, як... міністар заграгічных спраў, пан Скірмунт.

Запраўды, дзіўнае ўражаньне робіць апошняя нота яго, пасланая ў адказ на ноту савецкага народнага камісара Чычэрына. Як ведама, савецкая нота ў вельмі вострых словах вінавациіла Польшчу ў варожых да Савецкае Расеі кроках. Гэтыя абвінавачаньні пан Скірмунт лічыць безасноўнымі і тлумачыць факт выступленьня Чычэрына заданьнем зрабіць націск на дзяржавы Антанты ў зьвязку з Генуэскай канфэрэнцыяй.

Калі гэта і так, дык няма ніякага дзіва, што людзі баяцца новае вайны: бо, калі папяровыя выступленьні Савецкае Расеі не дадуць пажаданага палітычнага выніку, дык ніхто ня можа быць пэўным, што ад слоў бальшавікі не пярсйдуць да дзела — ўсё дзеля тэй-жа палітычнае мэты.

Дый гэтага мала: ведама ўсім чыста, што Расея толькі пад прынукай, з скрыготам зубоў прызнала незалежнасьць ня толькі Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі, але і самое Польшчы. Ведама, што расейскі імпэрыялізм ні на мінуту не пакідае думкі аб тым, што і з імі з усімі яму ўдасца зрабіць тое, што зроблена з Беларусяй і Украінаў. І Расея — ўсё роўна якая: савецкая, дэмократычная, ці монархічная, — будзе толькі выжыдаць моманту, каб працягнуць сваю прагавітую руку на балтыцкія краіны. А тым часам Польшча, якая дагэтуль ніяк не хацела лічыцца з сваімі слабейшымі суседзямі і навет у Лізе Народаў выступала проці прызнаньня незалежнасьці Латвіі (ня кажучы ўжо аб супраціўніцы Літве!), — Польшча цяпер перараканалася, што адзін раз можа здарыцца „cud nad Wisłą“, але цуд не паўтараецца кожны дзень. Польшча ўрэшце зразумела, што нельга будаваць свайго існаваньня на веры ў „цуды“, што толькі сілай можна даць адпор сіле, што ласка „можных“ — вялікіх дзяржаваў — не забязпечыць яе граніц ад новага нападу Расеі, — і вось яна начынае гуртаваць каля сябе меншых, дагэтуль пагарджаных суседзяў. Гэта выявілася ў зьезьдзе Балтыцкіх дзяржаў, які гэтымі днямі закончыўся ў Варшаве (ня было толькі Літвы). І гэты-то зьезд вельмі занепакоіў Расею: яна ведае, што дробныя галінкі пераламаць лёгка, але зьвязанага з іх веніку ня так-то лёгка зламаеш.

Вось, дзе істотная прычына страхаў, аб якіх цяпер многа гавораць. Вось чаму ня трэба дзеля гэтага ніякіх „агітатараў“, якія, паводле слоў эндэцкіх газэт, маюць такі „зычны“ голас, што яго чуваць у нас ажно... з Коўны!

Мы адкажам на эндэцкую зьвягу запраўдным абвінавачаньнем самых эндэкаў: яны стараюцца укрыць ад вачэй свайго ўласнага грамадзянства праўдзівае палітычнае палажэньне Польшчы, народ такімі-ж брахлівымі заявамі, як некалі заявы каманданта Вільні, Борушчака, што расклеіваў на вуліцах места адозвы аб карах усім, хто будзе гаварыць аб набліжэньні бальшавікоў, пад той час, як казакі Гая ўжо былі на Антокалі...

Каб-жа з польскім грамадзянствам эндэкі не зрабілі таго, што той-самы Борушчак зрабіў з некалькімі сотнямі віленскіх недаросткаў. Грамаду хлопчыкаў сабралі ў Ігнатоўскія казармы, абяцуючы „бараніць Вільню да апошняе каплі крыві“, далі гэтым дзецям вінтоўкі ў рукі, а самі... ўцяклі!

*Ярашэўскі.*

## За чатыры гады.

Чацьвёртыя ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі спраўляе сёлета Беларускі Народ.

Мінулі чатыры гады ад таго мамэнту, калі Рада Беларускае Народнае Рэспублікі ў Менску з учасьцем дэлегацыі Беларускае Рады ў Вільні ў 5 гадзін раніцы 25 сакавіка 1918 году прыняла гістарычную пастанову:

«Рада Беларускае Народнае Рэспублікі абвяшчае Беларускую Народную Рэспубліку незалежнай і выдае аб гэтым Устаўную Грамату».

Што-ж зроблена за гэты час дзеля зьдзейсьненьня гэтае пастановы? Якой дарогай ішоў Беларускі Народ да рэалізацыі сваей дзяржаўнай незалежнасьці?

На вялікі жаль, ад дня абвяшчэньня незалежнасьці Зямля Беларуская ні на мамэнт не аставалася запраўды вольнай і незалежнай: увесь гэты час яе дратавалі і дратуюць капыты чужацкіх каней...

У мамэнт абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі палова яе была занята немцамі, а другая — ваенным таборам уцякаўшых перад імі бяз ніякага адпору расейскіх войск. І вось, ня гледзячы на нягодную брахню маскоўскай і польскай чорнай сотні, быццам беларускі нацыянальны і палітычны рух ёсьць „нямецкая інтрыга“, нямецкая ўлада першая выступае варожа ў адносінах да беларускага дзяржаўнага будаўніцтва.

Дарэмны стараньні першага беларускага ўраду з Язэпам Варонкай на чале дабіцца прыхільнасьці і прызнаньня з боку Нямеччыны незалежнасьці Беларусі. Дарэмна Аляксюк цалуе бот кайзэра Вільгэльма, завяраючы яго аб сваім вернападанстве. Нямеччына цьвёрда стаіць на становішчы „единой недѣлимой Россіи“ і слухаць ня хоча аб аддзяленьні Беларусі ад гэнае дзяржавы.

Канец 1918 году прыносіць вялікія зьмены: у Нямеччыне, праіграўшай вайну, народ скідае кайзэра і заводзіць рэспубліканскі лад. Але і новая Нямеччына астаецца вернай старой ідэі «единой недѣлимой Россіи“ і рукамі бальшавікоў, пагражаючы беларускаму ўраду расстрэлам беларускіх вайсковых часьцін, пачаўшых тады арганізоўвацца, варочае Беларусь ізноў пад старое маскоўскае ярмо.

Але тыя самыя бальшавікі, якія йшчэ гэтак нядаўна разганялі штыхамі Усебеларускі Зьезд (18 сьнежня 1917 году), цяпер ужо не адважаваюцца проста паняволіць Беларусь: яны абвяшчаюць самі незалежнасьць Беларускай Савецкай Рэспублікі і злучаюць яе з Савецкай Расеяй на аснове фэдэрацыі.

Хаця незалежнасьць Беларусі ў разуменьні бальшавікоў вельмі розьніцца ад разуменьня яе беларускімі адраджэнцамі, ўсё-ж гэты факт трэба сур'ёзна адзначыць, як ясны прамень сонца ў тэй цемры, што запанавала над Беларусяй: навет яўныя ворагі Беларускае Народнае Рэспублікі былі прымушаны прызнаць акт 25 сакавік 1918 году, прызнаць незалежнасьць Беларусі.

Тварцы акту 25 сакавіка не пакладаюць рук, не пакараюцца новаму окупанту. Урад Луцкевіча разьвівае шырокую палітычную работу заграніцай, дабіваючыся прызнаньня поўнае незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублік Вэрсальскай Канфэрэнцыяй і Лігай Народаў. І вось дзе-якія дзяржавы, як Украіна, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Чэхаі Славакія горача адклікаюцца на дама

